Гродна
№15 (544),
26 ліпеня 2020

www.slowo.grodnensis.by

Слова Жыцця
ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# З паклонам да старасці, з выклікам да маладосці



26 ЛІПЕНЯ ПРЫПАДАЕ ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН БАЦЬКОЎ НАЙСВЯЦЕЙШАЙ ПАННЫ МАРЫІ І ДЗЯДУЛІ З БАБУЛЯЙ ЕЗУСА ХРЫСТА – СВЯТЫХ ЯЎХІМА І ГАННЫ. ГЭТЫ ДЗЕНЬ У ТРАДЫЦЫІ КАСЦЁЛА ЛІЧЫЦЦА ТАКСАМА ДНЁМ МАЛІТВЫ І ЎДЗЯЧНАСЦІ ЛЮДЗЯМ У СТАЛЫМ УЗРОСЦЕ.

● працяг на с. 4



*Сёстры назарэтанкі прыбылі ў Навагрудак 4 верасня 1929 г. па запрашэнні тагачаснага біскупа Зыгмунта Лазінскага, каб займацца выхаваннем дзяцей і моладзі ды апекавацца Белай Фарай*

# Ззялі Божай дабрынёй і адданасцю

1 ЖНІЎНЯ 1943 ГОДА ПАД НАВАГРУДКАМ НЯМЕЦКІМІ АКУПАНТАМІ БЫЛІ РАССТРАЛЯНЫ С. СТЭЛА І 10 ЯЕ ПАПЛЕЧНІЦ З КАНГРЭГАЦЫІ СЯСЦЁР НАЙСВЯЦЕЙШАЙ СЯМ'І З НАЗАРЭТА. КОЖНАЯ З ІХ НЕСЛА Ў САБЕ АДМЕТНАЕ АДЦЕННЕ ВОПЫТУ, ЧУЛАСЦЬ І НЕПАЎТОРНУЮ ФОРМУ ДУХОЎНАЙ ПРЫГАЖОСЦІ.

● працяг на с. 5

**“Там, дзе няма клопату пра пажылых, няма і будучыні для маладых”. Папа Францішак**

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### XVII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ
**Мц 13, 44–52**

Езус сказаў народу: “Валадарства Нябеснае падобна на скарб, схаваны ў полі, які знайшоў чалавек і ўтаіў. У радасці ад гэтага ён ідзе і прадае ўсё, што мае, і купляе гэтае поле. Яшчэ Валадарства Нябеснае падобна да купца, які шукае прыгожых пярлін. Знайшоўшы адну каштоўную пярліну, ён ідзе і прадае ўсё, што мае, і купляе яе. Валадарства Нябеснае падобна таксама на закінуты ў мора нерат, што збірае рыбу ўсялякага віду. Калі ён напоўніўся, яго выцягнулі на бераг і, сеўшы, сабралі добрае ў посуд, а дрэннае выкінулі вон. Так будзе пры сканчэнні свету: выйдуць анёлы, і аддзеляць ліхіх ад праведнікаў, і кінуць іх у вогненную печ. Там будзе плач і скрыгатанне зубоў. Ці зразумелі вы ўсё гэта?”. Яны адказалі Яму: “Так”. Ён жа сказаў ім: “Вось чаму ўсялякі кніжнік, навучаны пра Валадарства Нябеснае, падобны да гаспадара, які вымае са скарбніцы сваёй новае і старое”.

### АДКРЫЦЬ ТАЯМНІЧЫ СКАРБ

Мы гадамі пазнаём сябе, адкрываем праўду пра сябе. Часам баімся яе, таму што здаецца страшнай і горкай. Аднак першая і самая прыгожая праўда пра нас такая: Бог адарыў кожнага чалавека жыццём! Гэтае жыццё падобна на зямлю, поўную схаваных скарбаў.

Наш галоўны скарб – несмяротная душа. Яна нагадвае, што мы прызначаны для вечнага жыцця. Чарговыя дары атрымалі ў дзень свайго св. хросту. Тады былі ачышчаны ад першароднага граху і пакліканы стаць вучнямі Езуса. У той жа час Бог забяспечыў нас усім неабходным, каб зразумець і прыняць, што Хрыстос з’яўляецца нашым Збаўцам.

Гэтыя скарбы часта застаюцца схаванымі ў нас, забытымі. Часам даваяраем толькі таму, што бачым і кранаем. Але прыходзіць такі час, што гэтага становіцца недастаткова. Тады запрошаны зазірнуць пад паверхню таго, што ведалі дагэтуль. Адкрыем бясцэнныя скарбы! Безумоўна, выявім, што належым да Хрыста і Яго Валадарства, якое не мінае і непарушнае. Таксама спазнаем Божую міласэрнасць, дзякуючы якой Бог заўсёды чакае нас. Заўважым таленты, якія дапамагаюць нам рэалізаваць пакліканне. Там адкрыем цудоўную праўду пра сваё жыццё.

**Якія таленты дапамагаюць мне рэалізаваць сваё пакліканне?**

**Якая праўда пра маё жыццё?**

### XVIII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ
**Мц 14, 13–21**

Калі Езус пачуў пра смерць Яна Хрысціцеля, Ён асобна адплыў адтуль на чоўне ў пустыннае месца, а натоўпы людзей, пачуўшы гэта, пайшлі за Ім пехатою з гарадоў. Выйшаўшы з чоўна, Езус убачыў вялікі натоўп людзей, і злітаваўся над імі, і аздаравіў хворых іхніх. Калі ж настаў вечар, Яговы вучні падышлі да Яго і сказалі: “Пустыннае месца гэтае, і гадзіна ўжо позняя; адпусці народ, каб яны пайшлі ў вёскі і купілі ежы сабе”. Езус сказаў ім: “Не трэба ім ісці, вы дайце ім есці”. Яны ж кажуць Яму: “У нас тут толькі пяць хлябоў і дзве рыбы”. Ён сказаў: “Прынясіце іх Мне сюды”. Пасля Ён загадаў народу сесці на траву, узяў пяць хлябоў і дзве рыбы, паглядзеў на неба, блаславіў і, паламаўшы, даў хлеб вучням, а вучні – народу. І елі ўсе і насыціліся, і з кавалкаў, што засталіся, сабралі дванаццаць поўных кашоў. А тых, хто еў, было каля пяці тысяч мужчын, не лічачы жанчын і дзяцей.

### НАТАЛІЦЬ ДУХОЎНЫЯ ПАТРЭБЫ

Пан Езус шчодра накарміў сваіх слухачоў хлебам і рыбай. Прапаведуючы Евангелле аб Божым Валадарстве, Ён насычаў дух, але не забываў пра цела, якое таксама выйшла з рук Бога.

На жаль, сёння многія людзі надаюць столькі ўвагі матэрыяльным і зямным рэчам, што не заўважаюць больш глыбокіх, духоўных патрэб. Аказваецца, што мы часта больш думаем пра хлеб, які насычае цела, прытым што маем яшчэ галодную Богам душу.

Езус даў звычайны хлеб і рыбу натоўпам, сабраным вакол Яго, прычым удосталь. Зрабіў гэта для людзей, якія настойліва слухалі Яго слова. Сваім вучням Настаўнік з Назарэта загадаў: “Вы дайце ім есці”. З апостальскіх часоў Касцёл добра разумеў гэты наказ і разам з абвяшчэннем Евангелля нёс людзям, якія апынуліся ў складаным становішчы, таксама матэрыяльную дапамогу. Калі і мы робім гэта ў меру сваіх магчымасцей, супрацоўнічаем з Богам, з выратавальным намерам Яго поўнай любові; бо збаўленым павінен быць увесь чалавек, накарміць трэба ўсяго чалавека.

**Як разумею Хрыстовы наказ “Вы дайце ім есці”?**

**Ці заўважаю духоўныя патрэбы чалавека?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

---

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Патрэбныя і любімыя!

***Сёння мы часта з’яўляемся сведкамі таго, як малады чалавек не лічыцца з меркаваннем дасведчанай асобы. Вельмі часта старых людзей адштурхоўваюць на абочыну жыцця, каб не перашкаджалі сваімі парадамі.***

“Пажылыя людзі – гэта тыя, хто нясе нам гісторыю, навучанне і веру, хто пакідае нам спадчыну. Яны, як старое віно, маюць унутраную сілу перадаць нам высакароднае наследдзе”, – сказаў папа Францішак падчас аднаго са сваіх казанняў.

Чалавек, выпрабаваны жыццём, з’яўляецца для маладых крыніцай мудрасці. Калі бацькоў не было дома альбо вызнавалі дзіўныя ідэалогіі, бабулі перадавалі дзецям веру. Нягледзячы на тое, што касцёлы закрываліся ці ператвараліся ў розныя грамадскія аб’екты, вера захавалася, таму што старэйшыя ствaралі ў сваіх дамах сапраўдныя Касцёлы.

Менавіта дзякуючы старэйшаму пакаленню вера перадаецца нашчадкам. Пажылыя асобы маюць не толькі патрэбы і праблемы – у іх ёсць штосьці каштоўнае, чаго маладым не хапае. У іх ёсць час, мудрасць і жыццёвы вопыт, узмоцненая вера, меншая залежнасць ад спажывальніцтва, якое пагражае моладзі.

Людзі ў высакародным узросце – гэта яшчэ бастыёны здаровых маральных прынцыпаў. Менавіта яны могуць прадухіліць разрыхленне і астуджэнне сямейных адносін. Паслуга быцца дзядулем і бабуляй – гэта чуванне, нават здалёк, над маладымі; гэта добрая парада і дапамога ў жыццёвых праблемах і рашэннях; гэта заахвочванне маладых людзей, каб заставаліся з Богам; гэта евангелізацыя.

Пажылы чалавек мае ўплыў на сваю сям’ю, бо моліцца за яе. У цяжкасцях унукі ў дзядуль і бабуль шукаюць падтрымкі і суцяшэння, таму што бацькі часта церпяць няўдачу, ім не хапае часу, паглынуты працай, бездакзасны або згубіліся ў жыцці.

Перажываючы Дзень удзячнасці пажылым людзям, дзядулям і бабулям, варта ўсвядоміць, што стары чалавек – скарб грамадства, а нацыя, якая не паважае пажылых людзей, не мае будучыні, бо страчвае памяць.

**Дарагія Чытачы!**

**Давайце падзякуем пажылым асобам за вернасць Хрысту і Яго Касцёлу. Менавіта дзякуючы ім мы сёння з’яўляемся хрысціянамі і маем веру ў сваіх сэрцах. Давайце пакажам, што яны нам усё яшчэ неабходныя! Няхай адчуваюць сябе патрэбнымі і любімымі.**

---




# Ян Павел II
## і старэйшае пакаленне

***Старэнне – гэта не зло, якому трэба падпарадкавацца, а пакліканне, на якое трэба ўмець адказаць.***

У 1999 годзе Папа скіраваў ліст да асоб у сталым узросце: “Накіроўваю вам гэты ліст [...], каб звярнуць увагу ўсяго грамадства на палажэнне тых, хто, несучы цяжар гадоў, вымушаны часта змагацца з мноствам складаных праблем. [...] Я сам пастарэў, таму адчуваю патрэбу ўступіць у дыялог з вамі”. У пасланні Святы Айцец, звяртаючыся да слоў старажытнага аўтара Цыцэрона, называе старэнне “восенню жыцця”: як змяняецца прырода праз поры года, так змяняецца і чалавек, які з’яўляецца часткай гэтай прыроды.

Ян Павел II усведамляў фізічныя праблемы людзей сталага ўзросту з уласнага досведу. Аднак праз свой зварот Папа нібы заклікаў змяніць перспектыву погляду на старэнне. Сталы ўзрост – гэта не толькі час фізічных змен, якія неразрыўна суправаджаюць кожнага, але і час “асаблівай вартасці”, час, “калі ўсё супрацоўнічае для таго, каб чалавек мог як мага лепш зразумець сэнс жыцця і здабыць «мудрасць сэрца»”.

У сваіх разважаннях Святы Айцец узгадвае біблейскія прыклады Майсея і Тобіі, Сары з Абрагамам і Альжбеты з Янам – людзей, якія атрымалі важныя даручэнні ад Бога, знаходзячыся ў сталым узросце. “Чалавек нязменна створаны «па вобразе Божым» (параўн. Быц 1, 26), а кожны ўзрост мае свае добрыя якасці і заданні”, – заўважае Ян Павел II.

Пантыфік дзеліцца і сваім духоўным досведам перажывання часу старасці,



узгадваючы словы Езуса, скіраваныя да апостала Пятра: “Калі ты быў маладзейшы, то падпяразваўся сам і хадзіў, куды хацеў. Калі ж састарэеш, то выцягнеш рукі свае і іншы падпяража цябе і павядзе, куды не хочаш” (Ян 21, 18). Ян Павел II піша: “Гэтыя словы датычаць мяне непасрэдна як наступніка св. Пятра і спрыяюць таму, што яшчэ мацней прагну працягнуць рукі да Хрыста, паслухмяны Яго заклiку: «Ідзі за Мной!» (Ян 21, 19)”.

Прыкладам сваёй дзейнасці ў сталым узросце і сваім навучаннем Святы Айцец паказаў, як належыць плённа перажываць час старэння. У энцыкліцы “Christifideles Laici” (“Свецкія католікі”) ён адрасаваў такія словы старэйшым асобам: “Вы не з’яўляецеся і не павінны лічыць сябе людзьмі, якія жывуць на ўскраінах Касцёла, пасіўнымі элементамі свету, што жыве занадта хутка, але актыўнымі суб’ектамі, якія перажываюць плённы з духоўнага і чалавечага пункту гледжання этап жыцця. У вас яшчэ ёсць місія для выканання, вам яшчэ ёсць што ахвяраваць. Згодна з Божым планам, кожны чалавек з’яўляецца жыццём, якое працягвае расці, пачаўшы ад першай іскрынкі існавання, ажно да апошняга дыхання”.

Зварот Папы пасрэдна кіруецца таксама да астатніх людзей як напамін пра вартасць старэйшага пакалення. Вартасць, якая не залежыць ні ад фізічных, ні ад інтэлектуальных магчымасцей чалавека, а вынікае з самага факту яго існавання і падабенства да Бога на кожным без выключэння этапе жыцця.

***“Ян Павел II надаў цярпенню годнасць і каштоўнасць, засведчыўшы, што пра вартасць чалавека не гаворыць яго прадуктыўнасць або выгляд, што вартасцю з’яўляецца ён сам, таму што яго стварыў і палюбіў Бог”.***

***Папа Бенедыкт XVI***

Св. Ян Павел II быў публічнай асобай, і ўвесь свет мог назіраць за тым, як змяняўся Пантыфік з цягам часу. Увесь свет мог бачыць, як пераменяўся выгляд Папы, які ўплыў мела хвароба на яго рухі, міміку, агульны стан.

Большую частку свайго пантыфікату Ян Павел II заставаўся энергічнай і харызматычнай асобай. Але хвароба Паркінсана, артрыт, наступствы агнястрэльнай раны паступова ўзялі сваё, і Святы Айцец ужо нават не мог гаварыць. Падчас публічных выступленняў, у хвіліны вымушанага фізічнымі праблемамі маўчання папа Ян Павел II евангелізаваў вялікай пакорай і мудрасцю.

Аднак, нягледзячы на нездавальняючы стан здароўя, Пантыфік не адмаўляўся ад сваіх абавязкаў і працягваў выдаваць дакументы і пілігрымаваць.

*Кацярына Паўлоўская*

# Плануецца стварэнне каталога гродзенскага некропаля

***Ансамбль могілак у Гродне з'яўляецца адным з самых старых прыкладаў цэласных гарадскіх камунальных могілак на тэрыторыі Беларусі. Яны закладзены ў 1792 годзе.***

На жаль, гродзенцы позна ўсвядомілі каштоўнасць нашага некропаля як аб'екта нацыянальнага маштабу. Яшчэ ў 1922 годзе тагачасны пробашч фарнага касцёла кс. Леон Жаброўскі ў прэсе крытыкаваў гараджан за абыякавасць у дачыненні да могілак. Патрабавалі рамонту капліца і дом ахоўніка, на вачах развальвалася агароджа... У наступныя гады інфраструктура могілак была крыху адноўлена, але падзеі ІІ Сусветнай вайны і наступныя дзесяцігоддзі ваяўнічага атэізму прывялі да заняпаду некропаля. Некаторыя помнікі былі разбураны выбухамі снарадаў, магілы разрабаваны і панішчаны вандаламі.

Рэцыдывы крадзяжу чыгунных крыжоў і агароджаў з могілак, на вялікі жаль, здараліся і ў апошнія гады. У 1973 годзе могілкі наогул былі зачынены, іх нават планавалася паступова знесці. Помнікі не шкадуе таксама і надвор'е, якое дзесяцігоддзямі выпальвае фарбавыя надпісы на крыжах, былі ўключаны ў спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь. Прадстаўніцтва нямецкай фірмы "Рэмерс" адрэстаўрыравала на каталіцкіх могілках некалькі надмагілляў, у тым ліку і цагляны помнік гродзенскага віцэ-губернатара Канстанціна Максімовіча каля капліцы. У гэтым годзе некалькі помнікаў павінны былі аднавіць польскія рэстаўратары, але іх прыезду пакуль перашкодзіла эпідэміялагічная сітуацыя. Трэба таксама адзначыць клопат каталіцкіх вернікаў і кс. Яўгена Барысюка ў справе ўсталявання на каплічнай званіцы камер відэаназірання, якія павінны не дапусціць злачынстваў.

У ідэале найлепш было б стварыць на тэрыторыі могілак асобную ўстанову культуры з уласнай дырэкцыяй, як гэта зроблена на гістарычных могілках-запаведніках Літвы, Польшчы, Украіны. Такая адміністрацыя магла б кардынаваць работы па аднаўленні помнікаў, папулярызаваць могілкі як аб'ект хаця ва ўмовах, калі частка надмагілляў разбурана ці засыпана зямлёю, гэта работа з'яўляецца вельмі няпростай. У дадатку навуковую каталагізацыю могілак можна весці толькі некалькі месяцаў у год – вясной і восенню, бо ў астатні час некаторыя надмагіллі проста нябачныя з-за травы або снегу.

Асабліва складана чытаць надпісы на надмагіллях першай паловы XIX стагоддзя, калі тэксты высякаліся на даволі нетрывалым ракушачніку. Аднак гісторыкі ставяць перад сабою і больш амбіцыйную задачу, чым проста перапісаць усіх пахаваных на могілках. Яна палягае на тым, каб зафіксаваць каштоўныя надмагіллі, а таксама падрыхтаваць біяграфіі заслужаных гродзенцаў, пахаваных на могілках. Таму помнікі, якія вылучаюцца мастацкай каштоўнасцю і якасцю выканання, будуць старанна фатаграфавацца.

Кожны выхад на могілкі – гэта выключна цікавыя адкрыцці. Між іншым, вяртаюцца забытыя імёны.







а таксама размывае падмуркі помнікаў і прыводзіць іх да разбурэння.

Навуковае вывучэнне могілак пачалося толькі ў 1980-х гадах, калі імі пачалі займацца маладыя даследчыкі Любоў Зорына і Юрый Гардзееў. Любоў Зорына стварыла каталог пахаванняў, зробленых з металу, а Юрый Гардзееў разам з выкладчыкам Ягелонскага ўніверсітэта Яцэкам Размусам напісаў кнігу "Фарныя могілкі ў Гродне", якая стала рарытэтам і вартая перавыдання не толькі па-польску, але і па-беларуску.

Ёсць некаторыя – хаця пакуль і вельмі слабыя – зрухі ў справе аховы і аднаўлення могілак. У 2019 годзе па ініцыятыве ўпраўлення культуры Гродзенскага аблвыканкама некалькі надмагілляў (напр. помнік Элізы Ажэшкі) наведвання і нават заняцца зборам сродкаў на рэстаўрацыю. Аднак такі варыянт патрабуе фінансавання і пакуль, на жаль, не разглядаецца.

Аднак у Гродне ёсць невялікая каманда гісторыкаў, якая ўсё ж хоча прасунуць наперад справу вывучэння самых старажытных могілак нашага горада. Задача гэтай каманды – стварыць максімальна поўны спіс усіх надмагілляў, якія захаваліся на праваслаўнай і каталіцкай частцы могілак. Гэта вельмі вялікая работа, паколькі па прыблізных падліках на каталіцкіх могілках знаходзіцца ад 2,5 да 3 тысяч пахаванняў, а на праваслаўных – ад 5 да 6 тысяч. І гэта толькі прыблізны падлік, бо ніякага каталогу могілак не існуе. Але важна не толькі пазначыць імя і прозвішча пахаванага, а таксама гады яго жыцця, Напрыклад, гродзенскія актывісты нядаўна "нанова" адшукалі надмагілле ўдзельніка паўстання 1863 года Людаміра Абрэмбскага. На помніку не засталося імя і прозвішча пахаванага, але ацалеў верш-эпітафія, напісаны Элізай Ажэшкай на смерць былога паўстанца. Па гэтым вершы і быў адшуканы помнік. Ёсць намер аднавіць на гэтым надмагіллі пліту з прозвішчам і імем Людаміра Абрэмбскага. Таксама аказалася, што апрача магіл пісьменніц Элізы Ажэшкі і Вільгельміны Зындрам-Касцялкоўскай ёсць яшчэ надмагілле Мечыслава Густава Носіц-Яцкоўскага, які пасьпеў напісаць і выдаць некалькі апавяданняў пра лёсы эмігрантаў у Паўднёвай Амерыцы. Таксама мала хто ведае, што недалёка ад каталіцкай капліцы пахаваны Ян Відацкі – брат Элізы Ажэшкі па маці.

Ідэальны вынік плануемых работ – стварэнне старонкі ў інтэрнэце са спісам каля дзесяці тысяч чалавек, пахаваных на праваслаўных і каталіцкіх могілках з 1801 (самая старая захаваная магіла) прыкладна да 2001 года. Да яго можна дадаць карту з пазначэннем нумара магілы і сектара, дзе яна знаходзіцца, таму кожны жадаючы з дапамогай раздрукаванай карты лёгка зможа адшукаць патрэбнае надмагілле. Але і гэта не ўсё. Прыкладна тысяча самых каштоўных надмагілляў будуць дадзены ў каталозе больш разгорнута – з фотаздымкамі, біяграфіямі, эпітафіямі. Апошняе прадставіць магчымасць больш дакладна ўявіць сабе маштаб неабходных рэстаўрацыйных работ на могілках, прапануе матэрыял для працы гісторыкаў, мастацтвазнаўцаў, рэстаўратараў, спецыялістаў па некрапалістыцы.

Пакуль вядзецца падрыхтоўчая работа. Гісторыкі прыкідваюць маштаб працы, плануюць, з якога боку да яе падступіцца. Трэба набрацца адпаведных ведаў адразу ў некалькіх сферах гуманітарнай навукі, назбіраць інфармацыі, пагледзець прыклады каталагізацыі могілак у Еўропе, стварыць добрую каманду. Актыўная фаза працы над каталогам пачнецца вясной і будзе завершана восенню 2021 года. "У поле" выйдуць некалькі дзесяткаў чалавек, якія за 3-4 месяцы поўнасцю каталагізуюць могілкі па загадзя падрыхтаванай схеме. У канцы 2021 года спісы пахаваных і дадатковая інфармацыя стануць даступны ў інтэрнэце.

Падобныя каталогі ёсць у могілак на Павонзках у Варшаве, Ракавецкіх могілак у Кракаве, нядаўна з'явіўся і ў віленскіх Росаў. У Польшчы і Літве гэтая работа вялася пры фінансавай падтрымцы дзяржавы і разнастайных фондаў, у Гродне ж каталагізацыя могілак пакуль застаецца справай валанцёраў, хаця таксама ёсць спадзяванні на падтрымку па лініі трансгранічнага супрацоўніцтва Беларусі і Польшчы. Аднак работа ўсё ж будзе зроблена ў імя памяці пра многія пакаленні гродзенцаў, якія будавалі наш горад, маліліся ў нашых святынях і знайшлі свой апошні спачынак на гэтай зямлі.

*Андрэй Вашкевіч*

СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

## *Папская рада па справах душпастырства работнікаў сферы аховы здароўя*

*Усе, хто прымае ўдзел у палітыцы аховы здароўя і эканамічным кіраўніцтве службай аховы здароўя, [...] павінны ахоўваць і павялічваць агульнае дабро, незалежна ад абавязку справядлівасці, згодна з прынцыпамі салідарнасці і субсідыярнасці... Дзеля гэтай мэты адказныя за ахову здароўя, прызнаючы асаблівы характар каталіцкіх структур аховы здароўя, могуць плённа супрацоўнічаць, уносячы такім чынам свой уклад у будаванне "цывілізацыі «любові і жыцця», без якой існаванне асоб і грамадства губляе свой найбольш чалавечы сэнс" ("Evangelium vitae", Ян Павел II).*

*У штодзённай прафесійнай практыцы работнік сферы аховы здароўя, натхнёны хрысціянскім духам, знаходзіць трансцэндэнтнае вымярэнне сваёй прафесіі. Яна сапраўды выходзіць за рамкі проста чалавечай перспектывы аказання паслуг хворaму і набывае характар хрысціянскага сведчання, а значыць і місіі. Місія раўназначная пакліканню, г. зн. адказу на трансцэндэнтны заклік, які набывае рэальную форму ў абліччы церпячага чалавека. Гэтая дзейнасць з'яўляецца працягам і ажыццяўленнем міласэрнасці Хрыста, які "хадзіў, робячы дабро і аздараўляючы ўсіх" (Дз 10, 38). Адначасова гэта міласэрнасць, скіраваная да Хрыста: гэта Ён пацыент – "Я быў хворы", – паколькі да сябе адносіць – "вы Мне зрабілі" – клопат, праяўлены да брата (параўн. Мц 25, 31–40). Работнік сферы аховы здароўя – як добры самаранін з евангельскай прыпавесці, які спыняецца побач з параненым чалавекам, становячыся яго бліжнім праз праяўленую міласэрнасць (параўн. Лк 10, 29–37). У гэтым сэнсе работнік сферы аховы здароўя можа лічыцца Божым пасланнікам, увасобленым у Пісанні ў словах "Пане, які любіш жыццё" (параўн. Мдр 11, 26).*

*Касцёл лічыць "служэнне хворым неад'емнай часткай сваёй місіі" ("Dolentium hominum", Ян Павел II). Гэта азначае, што тэрапеўтычную службу работнікаў сферы аховы здароўя можна расцэньваць як удзел у душпастырскай дзейнасці і евангелізацыі Касцёла. Служэнне жыццю становіцца праз гэта пасланнем пра збаўленне, г. зн. абвяшчэннем, якое актуалізуе збаўчую любоў Хрыста. "Урачы, медсёстры, санітары і ўвесь персанал, а таксама валанцёры пакліканы да таго, каб праз любоў да хворых і пакутуючых быць жывым вобразам Хрыста і Яго Касцёла" ("Christifi deles laici", Ян Павел II), пакліканы быць слугамі жыцця.*

*Фрагмент з "Новай хартыі работнікаў сферы аховы здароўя"*




◆ *Святы Айцец Францішак дазволіў абнародаваць дэкрэты, падрыхтаваныя Кангрэгацыяй па кананізацыі. Першы дакумент тычыцца прызнання цуда, здзейсненага праз заступніцтва Слугі Божай Марыі Антоніі Сама, свецкай верніцы з Італіі. Святы Айцец ухваліў таксама дэкрэты аб прызнанні гераічнасці цнотаў заснавальніцы Таварыства Збаўцы с. Марыі Фэлікс Торэс і кс. Марыяна Хасэ дэ Ібаргуэнгуацыа-і-Зулуага з Іспаніі, а таксама місіянера, падарожніка, картографа кс. Эўсебіа Франчэска Кіні SJ і свецкага верніка Анджаліна Банэта з Італіі.*

◆ *Папа Францішак прызначыў аб-па Клаўдыа Гуджэроці Апостальскім нунцыем у Вялікабрытаніі. З 2015 года іерарх выконваў дыпламатычную місію ва Украіне. З 15 ліпеня 2011 года па 13 лістапада 2015 года быў Апостальскім нунцыем у Беларусі. Абп Клаўдыа Гуджэроці паходзіць з Італіі, з'яўляецца тытулярным арцыбіскупам Равэлы. Мае вучоную ступень магістра святой літургіі ў Папскім літургічным інстытуце св. Ансэльма ў Рыме. Абараніў дактарат у Папскім усходнім інстытуце. Святарскае пасвячэнне атрымаў у 1982 годзе, біскупскую сакру – у 2002 годзе.*

◆ *На сайце Канферэнцыі Біскупаў Японіі апублікаваны зборнік пад назвай “Ліквідацыя атамнай энергіі: заклік Каталіцкага Касцёла ў Японіі”. У ім утрымліваюцца меркаванні міжнародных экспертаў аб наступствах атамнай катастрофы на Фукусіме, небяспеках, звязаных з валоданнем ядзернай зброяй, а таксама аналіз атамнай энергетыкі з этычнага і тэалагічнага пункту гледжання. Спасылаючыся на энцыкліку “Laudato si'”, біскупы падкрэслілі, што поўная адмова ад атамнай энергетыкі – адзін з самых важных пунктаў ураўнаважанага развіцця на Зямлі.*

◆ *У адкрытым лісце да вернікаў члены Канферэнцыі Біскупаў Эквадора асудзілі карупцыю. Дакумент стаў рэакцыяй на сітуацыю ў краіне, якая склалася ў сувязі з распаўсюджаннем пандэміі каранавіруса, калі стала вядома пра злоўжыванні падчас набыцця і паставак лекаў, медыцынскіх сродкаў і прадуктаў харчавання. Карупцыя, па словах іерархаў, “спрыяе культуры адчужэння самых уразлівых, а таксама стварае несправядлівасць і беспакаранасць”. Іерархі заклікалі ўлады правесці расследаванні злачынстваў.*

◆ *З-за эпідэміялагічнай сітуацыі ў свеце была арганізавана І Сусветная анлайн-пілігрымка ў марыйны санктуарый у Лурдзе (Францыя). Яна прайшла пад дэвізам “Lourdes United” (“Аб'яднаны Лурд”). У прамой трансляцыі праз тэлебачанне, радыё і інтэрнэт прынялі ўдзел мільёны вернікаў з усіх кантынентаў. Удзельнікі віртуальнай пілігрымкі змаглі такім чынам прыняць удзел ва ўрачыстасцях, падрыхтаваных з нагоды гадавіны апошняга аб'яўлення Маці Божай св. Бернадэце Субіру.*

*vaticannews.va*

# З паклонам да старасці, з выклікам да маладосці



● *працяг са с. 1*

***Раскрываючы каштоўнасць продкаў, маем добрую магчымасць засяродзіцца над уласнай каштоўнасцю, і як наступства – выбраць найбольш адпаведны для сябе шлях, бо нельга адмяніць сувязь паміж пакаленнямі, дараваную нам Госпадам.***

## ДАР АД ПРОДКА

Гродзенцу Вадзіму Калупайлу 17 гадоў. Ён ведае, чаго хоча. Паступова імкнецца да мэты, з упэўненасцю глядзіць у будучыню. Здаецца, незвычайна для сучаснай моладзі, якая часта выглядае разгубленай. Незвычайна нават для тых, хто шмат гадоў усё яшчэ не разумее, як і куды сябе “прымяніць”.

Тэма раскрыцця ўласнага паклікання, напэўна, адна з самых складаных. Што рабіць? Давяраць свой жыццёвы шлях Богу і актыўна “шукаць сябе”. Няпроста, але дзейсна. Вадзім дае падказку, якая спрацавала ў яго выпадку: звярнуць увагу на карані і паглыбіцца ў гісторыю свайго роду. Нездарма Касцёл лічыць сям'ю самым вялікім багаццем – магчыма, там утойваецца найкаштоўнейшы скарб?

***“Свайго дзядулю я ніколі не бачыў – не застаў пры жыцці. Аднак менавіта яго постаць адыграла вырашальную ролю ў станаўленні маёй асобы”,*** – адзначае хлопец.



*Дзядуля Вадзіма Леанід Калупайла ў маладосці*

Незадоўга да адыходу з жыцця Леанід Калупайла пачаў пісаць дзённікі. Паспеў занатаваць 2 сшыткі, у якіх змясціў самае важнае. Стары чалавек адчуваў хуткае прыйсце смерці з-за дакучлівай хваробы і хацеў пакінуць нашчадкам памяць пра сябе – каб не забывалі. Не толькі не забылі, але і скарысталі яго спадчыну.

Сёння Вадзім, як і дзед калісьці, захапляецца фатаграфіяй. ***“Калі мне споўнілася 14 гадоў, вырашыў далучыцца да кола аматараў фатаграфіі. Акурат тады знайшоў дома старыя здымкі, стары фотаапарат. Узгадаў пра дзедавы дзённікі і пачаў чытаць. Аказалася, фотаапарат дзеду падарылі ў якасці прэміі на шклозаводзе. І той стаў яго найлепшым спадарожнікам. Пасля я высветліў, што архіў дзеда налічвае больш за 2 тысячы здымкаў, а ў склепе дома ён меў фоталабараторыю”,*** – распавядае Вадзім.

Каб яе стварыць, Леаніду Калупайлу спатрэбілася некалькі гадоў і немалыя грошы. Пачынаў з імправізаванай лабараторыі на кухні: закрываў усе шчыліны ад вокнаў і дзвярэй – і на працягу некалькіх гадзін на кухню нельга было заходзіць. Пасля перамясціўся ў склеп. Пачаў самастойна рабіць растворы для праяўкі плёнкі – рэцэпты браў з адмысловай кнігі. Паступова купіў неабходнае абсталяванне: фотапавелічальнік, чырвоную лямпу, глянцавацель, бочкі для праяўкі плёнкі, ванначкі для фатаграфій – той мінімум, які неабходны для “нараджэння” фатаграфій.

***“Доўгі час я з сям'ёй жыву ў дзедавым доме. Мне ўдалося цалкам аднавіць фоталабараторыю. Чаго не хапала – дакупіў. Фотаапарат дзядулі знаходзіцца ў працоўным стане, трэба было толькі пачысціць ад пылу і іржы,*** – дзеліцца хлопец. – ***На дадзены момант я адсняў ужо 2 фатаплёнкі. Мне падабаецца працаваць са старой камерай, таму што яна не дае права на памылку. Ты маеш 36 кадраў – і ўсё. Перад тым, як пстрыкнуць па спускавой кнопцы, доўга разважаеш і кадрыруеш выяву вокам, а не пасля на камп'ютары, як звыкліся рабіць цяпер. Трэба добра прыцэліцца – гэта гартуе прафесійны навык. Мне таксама вельмі падабаюцца колеры, якія атрымліваюцца на здымках, зробленых на плёнку. Лічбавая камера такіх адценняў не дасць. Гэта вельмі прыемныя фарбы: больш мастацкія, больш цёплыя – іх складана паўтарыць нават з дапамогай апрацоўкі ў фотарэдактары. Часта таксама атрымліваюцца цікавыя эфекты, напрыклад, калі на плёнцы ёсць драпіны. Некаторыя любяць выкарыстоўваць падобныя фільтры ў Інстаграм – нібы плёнка з пашкоджаннем. А ў мяне так атрымліваецца натуральна”.***



## СУВЯЗЬ СКРОЗЬ НЯБЫТ

Вадзім прачытаў у дзённіках, што дзядуля вельмі любіў падарожнічаць, заўсёды з фотаапаратам, які “тануў некалькі разоў падчас паездак”. Хлопец захапляецца азартам дзеда і прызнаецца, што хацеў бы павандраваць разам з ім, калі б была такая магчымасць...

Дзядулю і ўнука раздзяляюць дзесяткі гадоў, аднак Вадзіму прыйшла ў галаву ідэя здзейсніць падарожжа ў часе. Даследаваўшы сямейны фотаархіў, хлопец вырашыў зрабіць фотапараўнанні. У архіве дзеда шмат здымкаў Гродна. Гэтыя фота налічваюць ужо паўстагоддзя, таму адлюстраваныя на іх віды крыху адрозніваюцца ад сучасных. Вадзім рашыў, што будзе цікава прадставіць на адной выяве бачанне дзеда і ўнука. Можна будзе адчуць розніцу пакаленняў, убачыць, як змяніўся горад.

Хлопец з запалам дзеліцца тэхнічнымі падрабязнасцямі працэсу фотапараўнання: ***“Бяру ў рукі патрэбны здымак і скрупулёзна вымяраю, з якой кропкі ён быў зроблены. Раблю ўласнае фота з ідэнтычнага ракурсу. Пасля з дапамогай фотарэдактара накладваю здымкі адзін на другі: некаторыя аб'екты перамяшчаю, каб супалі, і непатрэбную частку кадра выдаляю. Калі ёсць пэўныя навыкі, на ўвесь працэс затрачваецца не больш за паўгадзіны часу – а вынік атрымліваецца займальны”.***

На дадзены момант гатовыя параўнанні, у асноўным, з цэнтра горада. Вадзім планує здымаць далей, каб пасля арганізаваць уласную выставу.

## ПЕРАЙМАЮЧЫ, АДКРЫВАЦЬ СЯБЕ

Вернісаж у жыцці Вадзіма ўжо меў месца. Натхніўшыся досведам дзядулі, хлопец пачаў фатаграфаваць больш, назапашваць матэрыял. Толькі ў дзядулі гэта быў пераважна рэпартажны жанр, а ва ўнука – мастацкі.

У лютым бягучага года Вадзім адкрыў сваю першую выставу ў фотаклубе “Гродна”. Ён ездзіў па маршруце 35-га аўтобуса, які стартуе з плошчы Савецкай і накіроўваецца на возера Юбілейнае, і фатаграфаваў пасажыраў. Сваю выставу Вадзім так і назваў – “35-ты маршрут”.

***“Паехаў, каб зрабіць некалькі пейзажаў, а ў выніку пачаў звяртаць увагу на пасажыраў і фатаграфаваць іх. Здымаў на працягу года – ёсць здымкі з кожнай пары: зімы, вясны, лета і восені. Пасля падумаў, што з гэтым матэрыялам магу зарэкамендаваць сябе як фатограф. У выніку для выставы былі адабраны 30 здымкаў. На іх звычайныя гродзенцы, якія ездзілі на дачу і варталіся назад. Падчас шляху кожны займаўся сваімі справамі і не заўважаў, што я прыцэльваюся фотаапаратам”,*** – распавядае Вадзім.

Хлопец таксама ўдзельнічаў у фотавыставе “Мы з Беларусі”, арганізаванай пасольствам Ізраіля для мясцовых фатографаў. “Прапускным білетам” для Вадзіма стала фотавыява Каложскай царквы. Нездарма і сярод дзядулінага архіва шмат здымкаў сакральнай архітэктуры Гродна – было ў каго павучыцца. Дарэчы, таленавітасць хлопца адзначаюць многія гродзенскія фатографы.

## ВЫНЕСЦІ ЎРОК

Вадзім дзеліцца, што адкрываць уласную гісторыю і ўсталёўваць сувязі з продкамі – цікава. Хаця б па той прычыне, што за гэтым абавязкова будзе ўтойвацца які-небудзь сюрпрыз.

***“Дзядуля не жыў у эпоху гаджэтаў і інтэрнэту, але гартаючы старонкі дзённіка, я ўпэўніўся: яго штодзённасць была вельмі яркай і насычанай. Гэта абуджае вялікую прагу да замілавання жыццём,*** – адзначае хлопец. – ***Гісторыя дзеда адыграла важную ролю ў станаўленні мяне як асобы. Спачатку ацэньваў сваё захапленне фатаграфіяй на ўзроўні хобі. Аднак даследаваўшы дзедаў архіў і лабараторыю, я зрабіў фатаграфію часткай свайго жыцця. Яна, пэўна, вызначыць маю будучыню”.***

Зараз Вадзім рыхтуецца да паступлення ў Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў на факультэт экранных мастацтваў (спецыяльнасць – кінатэлеаператар), а пасля марыць накіравацца за межы краіны, каб развіваць свае здольнасці.

*Ангеліна Марцішэўская*

# Ззялі Божай дабрынёй і адданасцю

• працяг са с. 1



### С. Канізія

Вучыла дзяцей у Навагрудку рэлігіі, асновам арыфметыкі, польскай мове, а таксама рукадзеллю: мастацкай вышыўцы і цыраванню. Была патрабавальнай і строгай. Вучні называлі яе "сястра Дысцыпліна", але ўсё роўна любілі і паважалі.

Мела цікавую выхаваўчую практыку: насіла з сабой скрынку з пшанічнымі зярнятамі. Пытала дзяцей, ці зрабілі яны якую-небудзь добрую справу. Калі хтосьці адказваў "так", мог узяць адпаведную колькасць зярнят і пакласці іх у іншую скрынку. Збожжа са скрынкі "добрых учынкаў" перамолвалася ў муку, з якой выпякалі гостыі. Такім чынам дзеці заахвочваліся да здзейснення як мага большай колькасці добрых спраў.



### С. Геліадора

Калі Саветы пераймалі кіраванне школай сясцёр назарэтанак у Навагрудку, дырэктар сказаў, што дазволіць манахіням застацца пры ўмове, што адна з іх стане яго пакаёўкай, і абраў с. Геліадору. У хуткім часе ў Навагрудку з вуснаў у вусны перадавалася навіна пра тое, што "рускі дырэктар навярнуўся назам з жонкай, а сястра водзіць іх сына ў касцёл і навучае рэлігіі". Акрамя таго, дырэктар згадзіўся на цудоўна прыгатаваную рыбу па пятніцах і нават нібыта ў школе спасылаўся, што гэта па наказе с. Геліадоры.



### С. Імэльда

Скіроўвала ўсю сваю творчую знаходлівасць і эстэтычны запал на аздабленне касцёла – навагрудскай Фары. З энтузіязмам выконвала функцыю закрыстыянкі.

З аднаго боку, ёй былі ўласцівы прыроджаная інтэлігентнасць, жыццярадаснасць, пачуццё гумару, адкрытасць, а з другога – сузіральнасць і ўнутраны спакой як вынік схільнасці да містычных зносін з Богам. Манахіня была ўзорам даверу. Пра яе гавораць, што падчас набегаў і абстрэлаў горада акупантамі спала сном праведніка: цяжка было разбудзіць. Яна адзіная з сясцёр не зняла хабіт падчас акупацыі, нягледзячы на парады прадбачлівых людзей. Гэта вынікала не толькі з таго, што была мужнай і рашучай, на словы асцярожнага папярэджання с. Імэльда адказвала: "Мне няма чаго губляць. Я хутчэй з'яднаюся з Езусам навечна".



### С. Даніэля

У Навагрудку ёй даручылі працу ў кухні. Па просьбе манахіні ў кафляных печках былі зроблены спецыяльныя паглыбленні, каб грэць бутэлькі з малаком і гарбатай на другі сняданак.

Была вельмі клапатлівай, дбала пра кожнага. Падчас доўгага перапынку с. Даніэля хадзіла сярод дзяцей, звяртаючы ўвагу, ці хто-небудзь з іх не забыўся прынесці ежу. Ціхая, радасная, яна мела шмат цяпла, так што ўсе адчувалі сябе нібыта пад апекай мамы. Сястра ўнікала ў сямейную сітуацыю кожнага. Часта дзякуючы яе намаганням бедныя дзеці і сіроты вызваляліся ад платы за школу.



### С. Канута

Перад уступленнем у Кангрэгацыю дзяўчына мела абранніка (нават прагучалі дзве абвесткі ў касцёле), але раптам перадумала выходзіць замуж. Яна абгрунтавала сваё рашэнне недарэчным аргументам, заснаваным на ўнутраным адчуванні. Усе былі абураны яе ўчынкам: і бацькі, і жаніх, і нават пробашч. Па словах дзяўчыны, бачыла ўражваючы сон, нібы моліцца на каленях і чуе гучны мужчынскі голас: "Юзэфа, не выходзь замуж за Станіслава, бо твой Жаніх чакае цябе ў Гродне. Там будзе твой шлюб, а ў якасці падарунка атрымаеш ад Яго чырвоную сукенку".

Не разумеючы да канца планаў Творцы, яна разам з маці і паломніцкай групай адпраўляецца ў Чанстахову (Польшча). У цудатворнай капліцы са слязамі ўглядаецца ў твар Марыі і просіць: "Найсвяцейшая Маці, скажы, што мне рабіць, бо не ведаю, чаго хоча ўад мяне гэты Голас!". Тады выразна чуе ў сваім сэрцы патрабаванне: "Уступі ў манастыр". Рашэнне аб выбары жыццёвага шляху прымаецца імгненна. А гледзячы ў шыкапліцу, убачыла дзвюх манахінь – хутка ўжо размаўляла з іх настаяцельніцай. Пачутыя ў сэрцы словы сталі чымсьці, што пацвярджала праўдзівасць Голасу ў сне.

А як з чырвонай сукенкай? Калі дасталі са снегу парэшткі расстраляных сясцёр, убачылі, што поза с. Кануты была найбольш кранальнай. Верагодна, яна была толькі паранена, таму прысела на каленях у куце магілы і застыла са сплеценымі перад сабой рукамі і апушчанай галавой. Напэўна, калі глеба ўсё больш і больш засыпала целы сясцёр, якія ляжалі побач, кроў, што цякла з раны моцным патокам, упрыгожвала яе пурпурам на шлюб.

*Падрыхтавала Кінга Красіцкая*

## Лісты чытачоў

**Хвала Хрысту! Хачу падзяліцца тым, як пілігрымка ў Тракелі да Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў змяніла маё жыццё. Але спачатку трохі перадгісторыі.**

У касцёл мяне прывяла бубуля. Доўгі час я лічыла яго сваім другім домам. З цеплынёй узгадваю той шчаслівы перыяд блізкасці з Богам… Калі мне было 15 гадоў, здарылася вялікая любоў. Выбраннік таксама пачаў хадзіць у касцёл разам са мной. Але паступова любоў да хлопца пачала выцясняць любоў да Езуса, а ўжо ў 18 мы сышлі ў самастойнае жыццё. Вяселле і шлюб. Потым цяжарнасць.

Наступныя 6 гадоў мае дзверы для Бога былі шчыльна зачынены. Дзверы прыадчыніліся, і Усемагутны пачаў дзейнічаць у маім жыцці. Былі розныя падзеі, людзі, сітуацыі, падчас якіх Бог працягваў руку выратавання, і трэба было толькі моцна ўхапіцца. Але я гэтага не рабіла, выконвала толькі тое, што было зручна, а няёмкае і складанае заставалася, як непатрэбны тавар у краме. Чаму? Што мною кіравала?

Ганарлівасць, гордасць, самадастатковасць, непрабачэнне сабе таго, што вызнана падчас споведзі, а значыць, змыта святой кроўю Хрыста. І гонка па крузе працягвалася. Жыццё было забіта праблемамі, клопатамі, сям'ёй, дасягненнямі, працай, чым заўгодна. Ды так, што і не было часу, каб спыніцца, падумаць, куды я нясуся і навошта. А Бог, нягледзячы на ўсё гэта, заўсёды быў побач. Ён ратаваў маю сям'ю ад разладу. У выніку яна стала маім ідэалам, абсалютна не пакінуўшы месца для Бога.

Бласлаўлёным для нас, я ўпэўнена, стаў той перыяд, калі свядома вырашылі зачаць трэцяе дзіця – час, калі гэта адбылося, сама цяжарнасць, нараджэнне дачушкі, а разам з ёй і мяне як мамы ў трэці раз. Усё было зусім па-іншаму: спакойна, без трывог і нерваў, хоць муж тады працаваў за мяжой, а я была з дзецьмі адна. Толькі мама часам дапамагала. А цяпер разумею, што ў той момант таксама Матуля Марыя не пакідала мяне без сваёй апекі.

Неяк мне ў рукі трапіла кніга Марыі Валторта "Святая Гадзіна". Словы Езуса, якія былі звернуты да мяне, запалілі іскру ў душы. Я стала часцей з'яўляцца ў касцёле, старалася не прапускаць нядзельныя службы. Стала адчуваць тугу па Езусе, укрытым у Гостыі. Пачала пераасэнсоўваць сваё жыццё, а яго духоўны складнік як быццам зняла з паўзы, на якой ён стаяў доўгія гады.

Памятаю прачытаную фразу: "Калі раніцай, адкрыўшы вочы, ужо адчуваеце сябе стомленымі, значыць, стамілася ваша душа". Я пайшла на генеральную споведзь, пасля якой нарэшце ўсвядоміла, чаму цяжка сабе прабачыць і куды гэта можа прывесці. Такое пачуццё і зараз можа нахлынуць, але цяпер разумею, што ў такіх выпадках рабіць. Пошук Бога і Яго месца ў маім жыцці супаў з актыўным пошукам сябе, сваіх ідэалаў, свайго прызначэння акрамя жонкі і мамы. Такі вось перажывала крызіс.

У пілігрымку ў Тракелі я трапіла спантанна. Сабрался за некалькі дзён да выхаду. Проста адчула, што яна мне неабходная, як глыток свежага паветра. Адразу аддала гэтую сітуацыю Богу, сказаўшы: "Калі я павінна ісці, зладзь, калі ласка, усё належным чынам". І мама пагадзілася пабыць з дзецьмі (хоць раней я ніколі не пакідала іх так надоўга, малодшую дачку дык наогул ніколі). А сама пайшла да Марыі з просьбай дапамагчы расставіць усё на свае месцы і напоўніць маё сэрца любоўю.

Прайшоў год. Было шмат выпрабаванняў, знаёмстваў, падзей: не вельмі прыемных і проста неверагодных, якія паказвалі, наколькі Бог блізкі, калі гэтага чакаем, і як Ён адказвае на нашы малітвы. Кожная пражытая сітуацыя патрэбна была для чагосьці. Потым я далучылася да групы ў Вайберы, якую вядуць сёстры і святары. Там публікуюцца тэксты са Святога Пісання з тлумачэннямі, людзі дзеляцца сваімі неверагоднымі сведчаннямі прысутнасці Бога ў жыцці.

Затым гэты каранавірус… Дзіўна, але ён прынёс мне жаданне ісці і сустракацца з Езусам у Гостыі пры любой магчымасці, а не толькі па нядзелях. А яшчэ мы з дзецьмі пачалі разам маліцца дома Ружанцам у інтэнцыі спыненні пандэміі. Я сама распачала Пампейскую навэнну ў інтэнцыі грэшнікаў. А не так даўно прыняла ўдзел у веласіпедных пілігрымках у Тракелі і Рось.

**Так Марыя змяніла маё жыццё, уклала ў рукі Ружанец і павяла за Езусам. Я ўбачыла яго сапраўдны сэнс. Цяпер вучуся па-новаму глядзець на мужа і дзяцей, блізкіх мне людзей, тых, з кім сустракаюся на сваім шляху, на выпрабаванні і цяжкасці, якія маю ў жыцці. Вучуся любіць па-іншаму. І малю аб тым, каб Нябесны Айцец, Святы Дух і Панна Марыя напаўнялі маё сэрца любоўю. Бог любіць і чакае кожнага з нас. Трэба толькі адрачыся ад граху, і так, як умееш, паклікаць Яго ў сваё жыццё.**

*Аксана Смолік, Гродна*







### Адказ на выклікі часу

**Манаскія супольнасці, прысутныя ў Беларусі, аб'ядноўваюць сілы з вернікамі, каб дапамагчы ўсім патрабуючым, чыё жыццё змянілася з-за пагрозы распаўсюджання каранавіруса.**

Разам з ахвярадаўцамі і людзьмі добрай волі кансэкраваныя асобы набываюць і перадаюць у медыцынскія ўстановы санітарна-гігіенічныя сродкі аховы, часам шыюць іх самі. Сярод іншых, майстэрня па вырабе літургічнага адзення "Sacris Vestibus", што працуе ў Маладзечне, сумесна з братамі капуцынамі з мясцовай супольнасці наладзіла пашыў ахоўных касцюмаў і халатаў. Некаторыя супольнасці ахвяруюць грашовыя сродкі і прадукты харчавання для патрабуючых.

Многія кангрэгацыі арганізавалі праз інтэрнэт прамыя трансляцыі св. Імшаў, набажэнстваў і інш. Для дзяцей і моладзі, у тым ліку падчас канікул, прапануецца анлайн-катэхеза, а таксама інтэграцыйныя заняткі (гульні, віктарыны, конкурсы).

У шматлікіх манаскіх супольнасцях моляцца ў інтэнцыі спынення пандэміі. Між іншым, моляцца за медыцынскі персанал і за ўсіх, хто мае вострую неабходнасць у духоўнай падтрымцы. У гэты асаблівы час кансэкраваныя асобы стараюцца быць побач з людзьмі, перажываючы разам з імі іх страхі і клопаты, слухаючы і падтрымліваючы праз асабісты кантакт ці праз сродкі сувязі.




### Маленькі супергерой

**Шасцігадовы Брыджэр Уокер з амерыканскага штата Ваёмінг выратаваў малодшую сястру ад агрэсіўнай сабакі.**

Мяшанец нямецкай аўчаркі напаў на чатырохгадовую дзяўчынку. На дапамогу прыбег яе брат, які прыняў лютасць жывёлы на сябе, пасля чаго схапіў сястру за руку і ўцёк з ёй у бяспечнае месца.

У хлопчыка пакусаны твар, яму наклалі 90 швоў. "Я падумаў, што калі камусьці трэба памерці, то гэта павінен быць я", – сказаў ён цётцы.

Гісторыя выклікала фурор у СМІ. Павіншаваў смельчака, між іншым, кіношны супергерой Халк – акцёр Марк Руфала. Хлопчык ужо адчувае сябе лепш. Ім заняўся пластычны хірург.




## *Што рабіць, каб вера памнажалася?*

*У Евангеллі чытаем, як часта Езус папракае тых, каму не хапае веры. Адтуль жа бяруць свой пачатак таксама дэпрэсія, адчай і г. д. Але нягледзячы на важнасць веры, мы не бачым у Біблії, што нам трэба рабіць, каб яна памнажалася. Не ведаем, якія малітвы трэба чытаць, колькі пасціцца, у якія пілігрымкі хадзіць, якія ахвяры складаць... Згадзіцеся, гэта крыху дзіўна. Езус так часта папракае ў адсутнасці веры, але разам з тым нібы і не дае выразнага навучання, як памнажаць веру або дзе яе шукаць.*

*Напэўна, для Бога больш важна наша ўсведамленне таго, што маем недахоп веры, і малітва. Думаю, не мае вялікага значэння, як мы молімся аб веры. Больш важна, калі адчуваем яе нястачу і беспярапынна просім аб памнажэнні веры, прыходзім з гэтай патрэбай да Бога.*

*Але ёсць адна адметная малітва – малітва праслаўлення. Асабліва на фоне праблем і цяжкасцей (а можа, нават найперш) яна мае вялікую сілу. Гаворка ідзе пра адважнае рашэнне ўзнесці хвалу Богу насуперак сваім пачуццям, страхам і крыўдам. Такая малітва памнажае нашу веру, дапамагае зрабіць у духоўным жыцці вельмі важны крок наперад.*

*Чаму малітва праслаўлення, асабліва ў цяжкасцях, памнажае веру? Таму што вера расце ў выпрабаваннях! "Браты мае, калі трапляеце ў разнастайныя выпрабаванні, з вялікай радасцю прымайце іх. Бо ведаеце, што выпрабаванне вашай веры нараджае цярплівасць. А цярплівасць няхай будзе дасканалая, каб вы былі дасканалыя і беззаганныя, ні ў чым не маючы недахопу" (Як 1, 2–4). "Шчаслівы чалавек, які вытрымлівае выпрабаванне, бо, калі будзе выпрабаваны, атрымае вянец жыцця, які Бог абяцаў тым, хто любіць Яго" (Як 1, 12). "Гэтаму радуйцеся, нават калі цяпер і давядзецца трохі пасумаваць падчас розных выпрабаванняў, каб праверанная ваша вера аказалася нашмат каштоўнейшай за тленнае золата, якое выпрабоўваюць агнём, на славу і хвалу, і пашану падчас аб'яўлення Езуса Хрыста. Хоць вы не бачылі, любіце Яго і, хоць цяпер не бачыце Яго, верыце ў Яго. Весяліцеся радасцю невыказнаю і найслаўнейшаю, дасягаючы мэты веры вашай – збаўлення душ" (1 П 1, 6–9).*

*Адважуся сказаць, што Бог сам зацікаўлены ў выпрабаванні нашай веры, пасля чаго і адбываецца яе рост. У гэтым нас пераконвае вялікая колькасць гісторый, з якімі наўрад хочам сустрэцца самі. Але толькі пасля такіх гісторый і адбываецца рост веры.*

*Часта хочацца, каб Бог не дапусціў тых альбо іншых выпрабаванняў, бо не заўсёды разумеем іх. Але павінны пагадзіцца, што менавіта правільна перажытыя гісторыі памнажаюць хрысціянскі вопыт, а з ім памнажаюць і веру.*

*А. Аляксандр Жарнасек MIC*
*Паводле ave-maria.by*

*З Богам праз штодзённасць*



# Распазнаванне: стан пакінутасці

У правілах распазнавання св. Ігнацыя мова аб духоўным суцяшэнні змяняецца – прычым без ніякага пераходу – тэмай духоўнай пакінутасці. Ёй прысвечаны наступныя шэсць правіл, якія пацвярджаюць, што такому нялёгкаму чалавечаму досведу святы надаваў вялікую вагу.

Гэтак жа, як спазнаць суцяшэнне, так і сустрэцца з выпрабаваннем трэба тварам у твар. Спачатку Ігнацый дае вызначэнне пакінутасці, затым – чатыры правілы аб тым, што варта рабіць, і ўрэшце прапануе паразважаць, у чым можа хавацца прычына таго, што Бог дапусцае гэты стан. Па праўдзе, хочацца спытацца адразу, як толькі сустракаем штосьці непрыемнае і незразумелае: "Чаму так? Чаму гэта адбываецца са мной?". Аднак парады Ігнацыя найперш датычаць дзейнага супрацьстаяння таму, што цяжка вызначыць і апісаць, хоць у той ці іншай ступені яно знаёма кожнаму.

**Чацвёртае правіла:** духоўная пакінутасць. Я называю пакінутасцю ўсё супрацьлеглае трэцяму правілу, а менавіта зацямненне душы, хваляванне ў ёй, схільнасць да рэчаў нізкіх і зямных, неспакой з-за розных імпульсаў і спакус, якія вядуць да невер'я, [стан] без надзеі, без любові; калі чалавек адчувае сябе абыякавым, астылым, сумным і нібы адлучаным ад свайго Творцы і Пана. Бо як суцяшэнне процілеглае пакінутасці, так і думкі, якія паходзяць з суцяшэння, процілеглыя думкам, якія паходзяць з пакінутасці.

Каб распазнаць, што знаходзімся менавіта ў стане духоўнай пакінутасці, нам трэба мець папярэдні досвед радасці і блізкасці да Бога. Інакш, пастаянна не знаходзячы ў сабе ні веры, ні надзеі, ні любові, можна зрабіць выснову, што "так і трэба", што ў свеце ёсць толькі рэчы "нізкія і зямныя", што Бог далёка і няма сэнсу імкнуцца за нечым большым. Аднак, спадзяюся, любому з нас зразумела, што мае на ўвазе Ігнацый, калі гаворыць пра "ўсё супрацьлеглае трэцяму правілу" аб суцяшэнні, аб якім разважалі ў мінулым артыкуле.

Ва ўнутраным жыцці чалавек адчувае змены: думкі, памкненні, пачуцці раптам змяняюць накірунак, малітва адзначаецца сухасцю, цяжар адчування сябе "адлучаным ад свайго Стварыцеля і Пана" выглядае непазбыўным і канчатковым. Падчас такой асаблівай уразлівасці і слабасці чалавека злы дух не будзе маўчаць і бяздзейнічаць. Таму першае, аб чым гаворыць Ігнацый, – не змяняць пастановы і рашэнні, прынятыя ў час духоўнага суцяшэння. Ён ведае, што такая спакуса ўзнікне. Зноў узгадаем тры этапы распазнавання: усведамленне, зразуменне і дзеянне. Калі ў суцяшэнні кожны духоўны дар трэба заўважаць і прыняць, то ў пакінутасці – натхненні злога адкінуць. "Слухаючы яго парад, не можам выбраць добрай дарогі", – адзначае Ігнацый у пятым правіле.

Аднак, не змяняючы дарогі і напрамку, варта ўважліва і сур'ёзна аднесціся да свайго духоўнага стану: усвядоміць, што адбываецца, назваць самаадчуванні, паглядзець на крыніцу і тэндэнцыі – куды гэтыя думкі і жаданні мяне цягнуць? А. Жуль Тоўнэр SJ адзначае: "Будзе карысна ўспомніць агульны прынцып псіхалогіі чалавека: рэфлексійная ўвага да свайго афектыўнага вопыту, як правіла, аслабляе яго ўплыў на нас, тады як увага да аб'екта афектыўных учынкаў альбо падставы афектыўных пачуццяў схільна іх узмацняць. Такім чынам, засяроджванне на аб'ектах гневу ці пажадлівасці спрыяе іх нарастанню; разважлівая ўвага да пачуццяў аслабляе іх".

Наступным крокам будзе супрацьдзеянне пакінутасці. Менавіта так, адносна таго, што выглядае такім усеабдымным і знясільваючым, трэба рупліва змяняць сябе спосабамі, якія супрацьстаяць гэтаму стану. Прынцып контратакі (agere contra) можна назваць агульным ігнацыянскім прынцыпам дзеяння ў выпадках сутыкнення з негатыўнымі ўплывамі на духоўнае жыццё. Адносна пакінутасці гэты прынцып сцвярджае аб неабходнасці больш інтэнсіўнай малітвы, разважання, рахунку сумлення і пакаяння. Дадатковым спосабам будзе велікадушнае і дзейнае служэнне Богу і бліжнім. Іншымі словамі, усведамляючы, што малітва – гэта апошняе, што хочацца цяпер рабіць, тым не менш, трэба выбраць такі спосаб дзеяння і трымацца яго. Нават у самай "пустой", на нашу думку, малітве захоўваецца крышынка веры, што мы пачутыя Богам.

У пакінутасці адчуваем сябе ў адзіноце, быццам Бог пайшоў у працягы адпачынак, хоць гэта не так. Адчуваем сябе нямоглымі і нявартымі, таму ізалюем сябе ад іншых і не схільныя турбаваць Бога просьбамі. Горш за тое, злы дух можа падказваць нам захоўваць у таямніцы ўсе сумневы і чорныя думкі, тады як прызнанне іх перад самім сабой і Богам, а таксама размова з дасведчанай у духоўных перажываннях асобай маглі б дапамагчы выстаяць у гэты складаны час.

Ігнацый нагадвае ў наступным правіле, што Бог заўсёды побач, нават калі не адчуваем Яго прысутнасці. Добра, калі ў нашым атачэнні ёсць людзі, якія таксама словам і чынам сведчаць пра яе. Аднак можа стацца, што, у рэшце рэшт, усе падбадзёрванні будуць успрымацца як неадпаведныя і бессэнсоўныя. Таму тое, што далей гаворыць Ігнацый, гучыць вельмі ціха і проста (бо што яшчэ можна сказаць няўцешнаму чалавеку пасля запэўнівання "Бог з табой, Ён цябе любіць"): набярыцеся цярплівасці, пакінутасць мінае. Адна з ключавых цнотаў у пакінутасці – цярплівасць, якая здольна вярнуць страчаную духоўную раўнавагу. Мы не пазбегнем пакінутасці ў сваім жыцці, і яна, як навальніца, здарыцца яшчэ не адзін раз. Аднак пакуль навальніца бушуе, мы можам цярпліва яе перачакаць, застаючыся духоўна актыўнымі, трываючы ў малітве і служэнні іншым людзям.

І толькі ў дзевятым правіле Ігнацый закранае пытанне аб магчымых прычынах гэтага духоўнага стану. Часам выглядае так, нібы пакінутасць узнікае ніадкуль: прыходзіць раптоўна, быццам хтосьці зачыніў аканіцы ў сонечны дзень. Але ў тым выпадку, калі прычына ёсць, можна даведацца штосьці важнае, даследаваўшы яе.

Ігнацый прыводзіць тры прычыны. Па-першае, нашы ўласныя паводзіны. З аднаго боку, калі і так адчуваем сябе няшчаснымі, не надта хочацца шукаць у гэтым сваю віну, але з іншага – што можа быць прасцей? Калі мы грэбавалі нейкімі важнымі абавязкамі, з нядбаласцю адносіліся да духоўнага жыцця, паддаваліся спакусам злога духа, то ўсведамленне таго факту, што праз свае ўчынкі аддаліліся ад Бога, прывядзе да пошуку шляхоў навяртання.

Па-другое, Бог можа дапусціць пакінутасць як выпрабаванне, каб маглі ўзрастаць і вучыцца любіць Яго як у дрэнныя, так і ў добрыя часы. Узгадаем, што ў папярэдніх правілах Ігнацый прапануе практыкаваць: цярплівасць, давер, малітву, адданае служэнне іншым. Калі пакінутасць прымушае нас расці такім спосабам, то гэтую магчымасць нельга прапусціць.

Нарэшце, па-трэцяе, пакінутасць можа быць з пасылам аб, магчыма, забытай праўдзе: Бог – крыніца ўсяго. Яго дары ў час духоўнага ўздыму лёгка прыпісаць сабе, тады як усё паходзіць толькі ад Бога. У пакінутасці мы тужым па суцяшэнні і яго з часам атрымаем. Але было б памылкай успрымаць яго як належнае, як тое, што можам "выпрацаваць" уласнымі намаганнямі. Пакінутасць – гэта выклік, які трэба сустрэць са шчырасцю і пакорай, ды адкрыць рукі, каб прыняць усё, што Бог нам дае ў дадзены момант, нават калі не бачым прычыны.

Размову аб духоўным распазнаванні нельга лічыць скончанай: наш шлях да Бога працягваецца. Яго заклік да ўзрастання застаецца нязменным, і процідзеянне злых сіл мы так ці інакш яшчэ дасведчым. Няхай жа заступніцтва св. Ігнацыя дапамажа нам лепш распазнаваць унутраныя рухі і заставацца вернымі Божым натхненням!

*Тэрэса Клімовіч*



# УМЕЦЬ ВУЧЫЦЦА АД СТАРЫХ

***Ян Павел II калісьці сказаў, што ў кожнага пакалення свая перспектыва. У дзяцей – маладосць, у маладзёнаў – дарослась, у дарослых – старасць, а ў старых застаецца перспектыва вечнасці. Якую перспектыву гэтыя апошнія паказваюць маладзейшым? Як правільна ставіцца да вопыту старэйшых? Паразважайма сёння над гэтым.***

### ПАВАГА ДА ПРОДКАЎ ЯК АБАВЯЗАК

Падаецца, што адносна бабуль і дзядуль прымяняецца правіла "альбо добра, альбо нічога". У нашым культурным асяроддзі не асабліва прынята крытыкаваць старэйшых. І, хіба, у гэтым ёсць зерне мудрасці. Усё-такі мы не ведаем кантэкстаў, у якіх яны жылі, супярэчнасцей лёсу і выпрабаванняў, праз якія ім даводзілася праходзіць. Спрацоўвае своеасаблівая прэзумпцыя невінаватасці.

Калі мы не пагаджаемся са старэйшым пакаленнем, часцей маўчым. Павага да продкаў шмат у чым вучыць пакорнасці. Так, злёгку усміхаючыся, мы робім сваё, але не пратэстуем супраць старэйшых. У любы момант можа аказацца, што яны мелі рацыю.

### ШАНАВАЦЬ ІМКНЕННІ

Ёсць такое перакананне, што пэўныя змены ў беларускім соцыуме магчымыя толькі тады, калі адыдзе "тое" пакаленне. Маўляў, "homo sovieticus" не можа пераскочыць сам сябе. Гэта дастаткова спрэчны тэзіс, тут ёсць шмат "але". Хацелася б звярнуць увагу на адзін аспект: адсутнасць павагі да імкненняў і інтэнцый.

Старэйшыя людзі жылі ў іншай рэчаіснасці. Іх перспектыва заўжды падаецца запазданай. Аднак, нягледзячы на ўсё гэта, яны шмат разоў ахвяравалі часцінку сябе для розных ідэалаў, імкнуліся да чагосьці. Сказаць услых "вы савецкія людзі, вас так навучылі" – балюча. Тое самае, нібы на фінальным адрэзку адзначыць, што бітва была ні за што. І бітвы ўвогуле не было. Жыццё абы-што. Гэта крыху нагадвае забойства чалавека. Непашана шчырых і добрых памкненняў прычыняе неверагодны боль.

### СЛУХАЦЬ І МЕЦЬ СВОЙ РОЗУМ

Аднойчы падчас пілігрымкі я начаваў у доме адстаўнога афіцэра, савецкага лётчыка. Раніцай ён правёў нас да рэшты пілігрымаў і ля касцёла пажадаў добрага шляху. У храм не заходзіў. Сказаў, што ўсё жыццё быў атэістам, і на старасць гадоў нібыта несумленна змяняць погляды.

Некаторыя ўсё жыццё ехалі на гарбе сваіх жонак. Іншыя думалі толькі пра кар'еру ці грошы. Іншыя ні пра што не думалі. Кажуць, што разам са старасцю прыходзіць мудрасць, але да некаторых старасць прыходзіць у самоце. Дык што, усе бабулі і дзядулі "ружовыя"? Кожны пражыў узорнае жыццё? Перад кожным маўчаць?

Часам, гледзячы на некаторых старэйшых людзей, здзіўляешся іх упартасці і жыццёвай закасцянеласці. Але маладзейшаму і ў такіх выпадках застаецца кіравацца двума папярэднімі правіламі: паважаць старэйшых і шанаваць імкненні. Моўчкі і без каментарыяў. Гэта таксама ўрокі. Можна вучыцца рабіць, як іншыя, а можна вучыцца не рабіць, як іншыя.

Галоўнае – моўчкі глядзець і вучыцца.

*Арцём Ткачук*

## НАВІНЫ



# УРАЧЫСТАСЦІ Ў ГУДАГАІ

У дыяцэзіяльным санктуарыі ў Гудагаі прайшла штогадовая адпустовая ўрачыстасць у гонар Маці Божай Шкаплернай. Дэвізам сталі словы св. Яна Паўла ІІ "Увесь Твой, Марыя".

Урачыстасць сабрала пілігрымаў з розных мясцін нашай краіны і з-за мяжы. Сёлета з-за складанай эпідэміялагічнай сітуацыі іх было менш, чым звычайна. Прысутныя дзякавалі Богу за Яго дары, асаблівым чынам за 30 гадоў з часу ўзнаўлення служэння айцоў кармэлітаў босых у Беларусі, а таксама прасілі аб патрэбных ласках.

Галоўную адпустовую св. Імшу ўзначаліў дапаможны біскуп Пінскай дыяцэзіі Казімір Велікаселец OP. На заканчэнне Эўхарыстыі вернікі скіравалі ў адрас іерарха сардэчныя віншаванні з нагоды 75-годдзя, якое ён нядаўна адзначыў.

У плане ўрачыстасці было таксама прадугледжана набажэнства Крыжовага шляху па самым працяглым маршруце ў Беларусі. Ад першай да апошняй стацыі гудагайскай Кальварыі – 3,5 кіламетры.

## ПІЛІГРЫМКІ



У сувязі з пандэміяй каранавіруса ў бягучым годзе не арганізуюцца шматлікія пілігрымкі ў санктуарыі дыяцэзіі. Духоўныя асобы і свецкія вернікі індывідуальна прыбываюць у Тракелі, Рось і Гудагай. Многія накіроўваюцца веласіпедамі ці пехатой.

## БІСКУПСКІЯ ВІЗІТЫ



Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч наведаў парафіяльную супольнасць Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў Парэччы (дэканат Гродна-ўсход). Падчас св. Імшы іерарх удзяліў сакрамант канфірмацыі групе маладых людзей, якія былі адпаведна падрыхтаваны да гэтай падзеі.

## НАМІНАЦЫІ



Трое новапрэзбітэраў атрымалі дэкрэты, якія скіроўваюць іх на служэнне ў Касцёле на Гродзеншчыне. Кс. Яўген Амасёнак прызначаны вікарыем у катэдральную парафію св. Францішка Ксаверыя ў Гродне, кс. Томаш Мікалайчык – вікарыем у парафію св. Вацлава ў Ваўкавыску, кс. Андрэй Струкель – вікарыем у парафію Святога Духа ў Гродне.

## АДНЫМ РАДКОМ

• Асвячэнне новага крыжа адбылося ў в. Пурсці, што належыць да парафіі Крупава (дэканат Ліда). • Душпастырства студэнтаў і працоўнай моладзі Гродзенскай дыяцэзіі "OPEN" зладзіла рэкалекцыі на байдарках. • У Навумавічах у індывідуальным парадку ўшанавалі памяць ахвяр ІІ Сусветнай вайны.

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

## Каляндар падзей

***29 ліпеня***
*Успамін св. Марты.*

***31 ліпеня***
*Успамін св. Ігнацыя Лаёлы, прэзбітэра і манаха.*

***4 жніўня***
*Успамін св. Яна Марыі Віянэя, заступніка святароў.*

***5 жніўня***
*Успамін Маці Божай Кангрэгацкай (Снежнай).*

***6 жніўня***
*Свята Перамянення Пана.*

***10 жніўня***
*Свята св. Лаўрэнція, дыякана і мучаніка.*

***14 жніўня***
*Свята св. Максімільяна Марыі Кольбэ, заступніка Гродзенскай дыяцэзіі.*
*Дзень малітоўнай памяці аб загінулых за веру ў лагерах і турмах.*

***15 жніўня***
*Урачыстасць Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.*

***22 жніўня***
*Успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Каралевы.*

***24 жніўня***
*Свята св. апостала Барталамея.*

***1 верасня***
*81-ая гадавіна выбуху ІІ Сусветнай вайны.*
*Сусветны дзень малітвы аб ахове стварэння.*

***4 верасня***
*Успамін бл. Марыі Стэлы і 10-ці паплечніц, мучаніц з Наваградка.*

***8 верасня***
*Свята нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім.*
*Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Жнівень***
*Аб вызваленні людзей, залежных ад алкаголю і іншых рэчаў. У інтэнцыі Душпастырства цвярозасці і ўстаноў, якія падтрымліваюць залежных людзей.*
*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**26 ліпеня 1993 г.** – кс. Станіслаў Шока SDB, *душп. Ліда;*
**26 ліпеня 2009 г.** – кс. прэлат Мар'ян Маргуж, *праф. Гродзенскай ВДС.*
**27 ліпеня 1932 г.** – кс. Антоній Аўдыцкі, *проб. Заневічы;*
**31 ліпеня 1942 г.** – кс. Юзаф Кучынскі, *проб. Уселюб;*
**31 ліпеня 1942 г.** – кс. Міхал Далецкі, *проб. Наваградак;*
**2 жніўня 1989 г.** – кс. Рышард Вербель, *проб. Рось;*
**9 жніўня 2002 г.** – кс. канонік Баляслаў Завістоўскі, *проб. Селіванаўцы;*
**11 жніўня 2015 г.** – кс. прэлат Міхал Сапата, *ген. вік.;*
**14 жніўня 1996 г.** – кс. прэлат Баляслаў Гаўрыхоўскі, *проб. Гожа;*
**17 жніўня 1978 г.** – кс. Станіслаў Хадыка, *проб. Гервяты;*
**17 жніўня 1978 г.** – кс. Чэслаў Штэйн, *проб. Радунь;*
**28 жніўня 1982 г.** – кс. Ян Балтралік, *проб. Лабна;*
**30 жніўня 1973 г.** – кс. прэлат Юзаф Інгелевіч, *ген. вік., проб. Астравец;*
**30 жніўня 1991 г.** – кс. інфулат Міхал Арановіч, *ген. вік., проб. Гродна;*
**3 верасня 1987 г.** – кс. Апалінарый Зубелевіч, *проб. Канвелішкі;*
**4 верасня 1941 г.** – кс. Альфонс Гродзіс, *проб. Першамайск;*
**4 верасня 1956 г.** – кс. Вацлаў Драб, *проб. Струбніца;*
**5 верасня 1939 г.** – кс. Баляслаў Корнь, *проб. Мікелеўшчына;*
**9 верасня 1959 г.** – кс. Чэслаў Дабулевіч, *проб. Нача;*
**12 верасня 1943 г.** – кс. Раман Місевіч, *проб. Трабы;*
**13 верасня 2004 г.** – кс. прэлат Ян Граеўскі, *праф. Гродзенскай ВДС.*

---

У сувязі з працэсам у Касцёльным судзе Гродзенскай дыяцэзіі
**Таўстыга Віталія Мікалаевіча,**
які 5.10.2007 г. у царкве свсв. Барыса і Глеба ў Гродне (Калоўжская) заключыў сужэнскі саюз
**з Макарэвіч Галінай Пятроўнай,**
просяць звярнуцца ў сядзібу Касцёльнага суда ў Гродне: вул. К. Маркса, 4, – або патэлефанаваць па нумары: (8 0152) 75-64-37.

*Чытачоў, якія ведаюць адрас пражывання ці валодаюць якой-небудзь інфармацыяй аб месцы побыту Таўстыга Віталія, просяць перадаць звесткі ў Касцёльны суд.*

# Інфармацыя для абітурыентаў!

**Гродзенскі тэалагічны каледж імя св. Казіміра аб'яўляе набор студэнтаў на 2020/2021 навучальны год.**

Адной з галоўных мэт навучальнай установы з'яўляецца ўмацаванне веры, паглыбленне рэлігійных ведаў і падрыхтоўка спецыялістаў для рэлігійнай дзейнасці. Навучанне ў каледжы працягваецца 3 гады (з верасня па чэрвень).
Форма навучання – завочная. Заняткі праводзяцца ў 2-ую і 4-ую суботу і нядзелю месяца.
Пасля заканчэння каледжа выпускнікі могуць працягваць навучанне ў каталіцкіх ВНУ, атрымаць ступень магістра або доктара.

**Дакументы, неабходныя для паступлення:**

- заява (напісаная ўласнаручна);
- біяграфія (напісаная ўласнаручна);
- рэкамендацыйны ліст ад пробашча парафіі;
- копія атэстата аб агульнай сярэдняй адукацыі або іншыя дакументы аб адукацыі;
- копія пашпарта (с. 31–33);
- копіі пасведчанняў аб сакрамантах хросту і канфірмацыі;
- 3 фотаздымкі (3x4);
- медыцынская даведка;
- анкета (запаўняецца пры падачы дакументаў).

Перад падачай дакументаў абавязковы папярэдні запіс, які адбываецца па тэлефонах (8 029) 887-71-05, (8 0152) 75-33-08 або праз e-mail: kaledz.tealagiczny@gmail.com. Дакументы прымаюцца асабіста з 1 чэрвеня да 21 жніўня кожны аўторак з 10.00 да 12.00 у біскупскай курыі (г. Гродна, вул. К. Маркса, 4).

**Уступныя іспыты:**
- экзамен з катэхізіса і агульных ведаў пра Каталіцкі Касцёл; - кваліфікацыйная размова.

***Уступны іспыт адбудзецца 25 жніўня ў 11.00.***

# Незабыўныя канікулы.

## Інструкцыя для прымянення

***Як жа дзеці чакаюць канікул! Пасля працяглай вучобы ў распараджэнні цэлае лета! А дарослыя тым часам любяць паўтараць, што яно праляптае так хутка, што і заўважыць не паспяваеш. Знаходка для бацькоў: як мага больш часу праводзіце разам са сваімі дзецьмі. Тады гэты час ацэньваецца інакш. Удвая – калі напаўняеце яго сэнсам, уражаннямі, прыемнымі эмоцыямі.***

***Педагог-псіхолаг Вольга Парада адзначае, што ёсць абавязковыя ўспаміны, якія неабходна падарыць дзіцяці ў маленстве. Здавалася б, дробязі, зведаныя ў раннія гады, пазней працыруюцца на дарослае жыццё. Гэта не адбываецца наўмысна – на ўзроўні падсвядомасці. І чым глыбей бацькі мелі шанс адзначыцца ў свой час, тым больш напоўненымі адчуваюць сябе дзеці. З такім досведам лягчэй ісці па жыцці. Адназначна.***

**ШТО РЭКАМЕНДУЕ ПСІХОЛАГ?** ***Зрабіць так, каб ваш сын ці дачка ўзгадвалі пра дзяцінства з адчуваннем шчасця. Гэта ўжо напалову магчыма, калі праводзіце час разам. Засталося толькі афарбаваць яго ў яркія колеры.***

### НАЗІРАЦЬ

***Глядзіце на зоры, захад сонца.***

Важна ўмець заўважаць прыгажосць паўсюль. Гэта гарманізуе, дазваляе адчуць сябе часткай цудоўнага стварэння.

### РАЗМАЎЛЯЦЬ

***Дзяліцеся ўражаннямі, марамі.***

Душэўныя бяседы ствараюць пэўную атмасферу, у якой нараджаецца блізкасць паміж людзьмі. Часам гэтага так не хапае, каб даверыцца, абаперціся ў важнай справе. Мы насамрэч патрэбныя адзін аднаму!

### СЛУХАЦЬ

***Пасядзіце ў цішыні ля кастра.***

Не заўсёды, каб пачуць, трэба слухаць. Часам, каб пачуць, трэба прыслухацца. Нават цішыня парой “прамаўляе”.

### ГУЛЯЦЬ

***Ускарабкайцеся на дрэва.***

Немагчыма ўявіць? А чаму б не? Шчаслівыя дзеці, чые бацькі не саромеюцца быць з імі на адной хвалі (і наадварот). Гатовыя разам і ў агонь, і ў ваду. Не ў кусты, як гавораць, а літаральна на дрэва.

### РАДАВАЦЦА

***Танцуйце, кружыце дзіця на руках.***

Умець выражаць свае пачуцці, не прыхоўваць іх – тое яшчэ мастацтва. Калі дзіця навучыцца гэтаму з ранніх гадоў, не будзе мець канфлікту хаця б з самім сабой.

### ЗДЗІЎЛЯЦЦА

***Паглядзіце на свет праз каляровыя шкельцы.***

Як зменіцца карціна, калі зірнуць на ўсё з іншай перспектывы! Жыццё сапраўды зазвяе новымі колерамі. Для гэтага трэба ўмець бачыць яго пад розным, не звычайным вуглом.

### СТВАРАЦЬ

***Будуйце шалашы, пляціце вянкі.***

Гэта развівае ўяўленне, дапамагае творчаму раскрыццю. Кожны чалавек унікальны, і ў тым яго каштоўнасць.

### ЗАХАПЛЯЦЦА

***Сузірайце, як прарастае насенне.***

На ўсё патрэбны час. Тым больш, для нейкага сур'ёзнага выніку. Важна быць цярплівым і не адчайвацца, калі на гарызонце доўгі час нічога не відаць.

### РАЗУМЕЦЬ

***Пагутарце на мове знакаў.***

Вельмі карыснае ўменне – разумець без слоў. Інтуітыўна, на жэстах, намёках. Будзе прыдатным даведацца, ці можаце нешта растлумачыць адзін аднаму без слоў. І вучыцца.

### ПАКАЗВАЦЬ ЛЮБОЎ

***Абсыпце дзіця дажджом з пялёсткаў кветак.***

Тым самым прадэманструеце, што дзіця для вас любімае, важнае. Час ад часу кожны чалавек мае ў гэтым патрэбу: адчуваць сябе асаблівым, дарагім сэрцу.

### КЛАПАЦІЦЦА

***Карміце птушак.***

Як гавораць, сёння мы патрэбны дзецям, заўтра яны – нам. Важна паказаць неабходнасць клопату аб патрабуючых. Падобным чынам кожны з нас у розны час можа апынуцца па супрацьлеглым бакі барыкад.

### ДАВАЦЬ (САБЕ) СЛАБІНУ

***Пачніце паслак з дэсерта. Папырскайцеся вадой з бутэлек.***

Не трэба заўжды трымацца “правільна” – гэта можа быць нанаснае, прыдуманае. Парой важна адмовіцца ад выбудаваных межаў, каб адчуць сапраўднасць моманту.

***Як заўважае псіхолаг, час, праведзены супольна ў сям'і, можна назваць “святам душы”. Неабходна дазволіць дзіцяці выбіраць, як яго правесці – не навязваць. Не рэкамендуецца гуляць у канкурэнтныя гульні на вынік (не павінна быць пераможцаў і пераможаных). Варта памятаць: маладышыя шмат у чым пераймаюць старэйшых. Такім чынам, бацькі ніколі не перастаюць быць прыкладам для сваіх дзяцей. І толькі ад нас залежыць, якім ён будзе.***

*Ангеліна Пакачайла*

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько**

з нагоды імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: Божага бласлаўлення на кожны дзень святарскай паслугі, шчодрых дароў Святога Духа, шмат людской дабрыні і цудоўнага плёну на ніве нашага Пана, Езуса Хрыста.

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Мастоў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Чэславу Паўлюкевічу**

з нагоды імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Мы просім у гэты дзень аб нястомным аднаўленні Вашага святарства ў Касцёле праз Святога Духа. Молім, каб сваім жыццём Вы пастаянна пацвярджалі сапраўдны сэнс, які мае Ваша асабістае святарскае пасвячэнне як у сабе, так і для ўсіх людзей; каб трывалі ва ўдзячнасці за дар паклікання, як за незаслужаную ласку, і, нястомна дзякуючы, умацоўваліся ў вернасці гэтаму святому дару, які настолькі бескарыслівы, што абавязвае яшчэ больш. Жадаем Вам, каб як душпастыр імкнуліся да мэты і пастаянна адкрывалі дар і сэнс паклікання. Няхай здароўе і энергія суправаджаюць Вас цягам доўгіх гадоў жыцця, прыносячы задавальненне і радасць ад усяго, што дасягнута, і дазваляючы ставіць мноства новых мэт. Няхай Марыя, Маці святароў і Дапаможніца хрысціян, абараняе Вашу святарскую веру, дапамагае абнавіць і захаваць першапачатковую любоў да Бога і Касцёла, якая напаўняла сэрца ў дзень пасвячэння.

*Парафіяне з Росі*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Субелю**

з нагоды 23-яй гадавіны святарскіх пасвячэнняў і імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, патрэбных сіл для штодзённай святарскай паслугі, Божых ласкаў і толькі радасных хвілін. Няхай міласэрны Пан бласлаўляе кожны дзень, а Найсвяцейшая Маці няспынна ахінае сваёй апекай. Дзякуем за зычлівасць, малітву, добрае і чулае сэрца.

*Касцёльны камітэт і ўдзячныя парафіяне з Трабаў*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько**

з нагоды імянін прагнем скласці сардэчныя пажаданні. Няхай Суцяшыцель – Дух Праўды – будзе з Табой праз свае святыя дары. Няхай з Табой будуць Яго мудрасць і розум, умеласць і рада, мужнасць, набожнасць і боязь Божая, каб заўсёды мог распазнаць тое, што ад Бога паходзіць, і адрозніць тое, што паходзіць ад “духа свету”. Жадаем стойкасці і цярплівасці ў выкананні святарскай паслугі, усіх Божых дароў, апекі Найсвяцейшай Маці, сілы ў руках і чыстага агню ў сэрцы, што запаліць усё навокал шчасцем і радасцю. Мы, са свайго боку, ахінаем Цябе малітвай, каб Бог бласлаўляў і нястомна ўмацоўваў сваёй ласкай і спакоем.

*Сябры*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Жураўскаму**

з нагоды надыходзячых імянін жадаем здароўя, душэўнага супакою, спакою ў сэрцы, Божага бласлаўлення, апекі Маці Божай і святога заступніка. Няхай кожны пражыты дзень прыносіць сілу і радасць для выканання душпастырскай паслугі.

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Захарэўскаму**

з нагоды імянін складаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай: шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, нястомнай апекі Маці Божай і Анёла-ахоўніка, стойкасці на святарскім шляху, які прызначыў для Вас усемагутны Бог, а таксама добразычлівых людзей побач. Няхай кожны дзень паслугі Богу і людзям прыносіць радасць і задавальненне.

*Вернікі з парафіі свсв. Анёлаў-ахоўнікаў у Раготне*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько**

з нагоды імянін шчыра жадаем Божага бласлаўлення, моцнага здароўя, зычлівых людзей побач. Няхай кожны дзень прыносіць Вам сілы для душпастырскага служэння, спакой і радасць заўсёды жывуць у сэрцы, а Святы Дух асвячае шлях, які мы ідзём разам з Вамі. Дзякуем за Вашу дабрыню, усмешку, малітву і паслугу ў нашай парафіі. Няхай міласэрны Айцец узнагародзіць Вас за гэта.

*З павагай парафіяне г. Масты*

**Паважанай Сястры Ганне**

з нагоды імянін жадаем шчодрых Божых ласкаў, здароўя, душэўнага супакою, багатага плёну працы. Ты носіш імя бабулі Езуса і даверылася Яму. Няхай добры Бог асвеціць Твой зямны шлях, каб добра было па ім крочыць.

*Удзячныя парафіяне з Сурвілішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Субелю**

з нагоды 23-яй гадавіны святарскіх пасвячэнняў і імянін жадаем моцнага здароўя, нястомнай апекі Маці Божай, шчодрых дароў Святога Духа, творчага натхнення, душэўнага плёну на далейшым шляху паслугі ў нашай парафіі. Няхай жыццё будзе цікавым і добрым, дарога – шчаслівай, справы – удалымі, і ніякія цяжкасці не палохаюць.

*Удзячныя парафіяне з касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Сурвілішках*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Савіцкаму**

з нагоды імянін жадаем добрага здароўя, шчасця і радасці. Няхай Найвышэйшы Бог адорыць Вас сваімі ласкамі, Найсвяцейшая Маці мае ў апецы і дапамагае заўсёды і ўсюды, святы заступнік спадарожнічае на шляху да святасці, а кожны дзень паслугі Богу і людзям прыносіць радасць і задавальненне.

*З удзячнасцю вернікі з капліцы ў Вінцуках*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму**

з нагоды дня нараджэння жадаем моцнага здароўя на доўгія гады душпастырскай паслугі, душэўнага супакою і зычлівых людзей побач. Няхай Езус адорвае шчодрымі ласкамі, Анёл-ахоўнік дадае сіл, Маці Божая ахінае сваёй ласкай і апекай, а Святы Дух вядзе праз усё жыццё.

*Былыя парафіяне з Варнянаў і Вароны*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Уладзіміру Гуляю**

з нагоды імянін перасылаем сардэчныя віншаванні. Няхай Пан Бог адорвае сваімі ласкамі, моцным здароўем, мудрасцю ў душпастырскай паслузе, Найсвяцейшая Панна Марыя і святы заступнік нястомна Вамі апекуюцца, а Анёл-ахоўнік чувае і дапамагае годна перажываць кожны дзень.

*Касцёльны камітэт, апостальства “Маргарытка” і парафіяне з Ліды-Фары*

**Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Шмыгіну**

з нагоды надыходзячага дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, радасці і людской добразычлівасці. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень, а Маці Божая атуляе пяшчотай. Мы дзякуем Вам за святло душы і за цудоўныя разважанні Божага слова, пасля якіх сэрца напаўняецца радасцю і спакоем.

*Удзячныя парафіяне з касцёла Звеставання НПМ у в. Мяжэрычы*

***У сувязі з водпускам супрацоўнікаў рэдакцыі наступны нумар газеты “Слова Жыцця” выйдзе 13 верасня.***

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;** заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 3163; тыраж 4046; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты. Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная